Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 2 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 2.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 6 (94) | Вільня, 8-га чэрвеня 1936 г. | Год 4-ты.

## Бальшавізм ды іншыя нацыяналізмы.

Савецкая прэса нядаўна паведаміла, што дасюлешняя Беларуская Акадэмія Навук далей будзе называцца—Акадэмія Навук БССР. Для тых, хто ня сочыць за нацыянальнай палітыкаю Саветаў, такая нязначная, быццам, зьмена назову Найвышэйшае Беларускае Установы можа нічога і ня скажа, а некаторыя можа і зусім гэнае зьмены не заўважаць.

Фактычна-ж у гэнай зьмене назову крыецца ня толькі фармальная зьмена ўсяе „нацпалітыкі" бальшавікоў у адносінах да паняволеных імі народаў, але і прынцыповая „ўстаноўка" бальшавіцкай генэральнае лініі да ўсіх „саюзных" рэспублікаў.

Што праўда, сучасны зусім ужо выразны паход маскоўскага нацыяналізму супроць усіх, насяляючых Савецкую Расею народаў не зьяўляецца нечым зусім неспадзяваным. Тая самая нацыянальная палітыка фактычна бальшавікамі праводзіцца ўжо даўно, а пачаў яе яшчэ сам Ленін, толькі ў папярэднія гады яна прыкрывалася пэўным туманным пустаслоўем аб нейкім мітычным самаазначэньні народаў, аж да аддзяленьня, ў апошні-ж час „нацпалітыка" стала толькі больш выразнай, ды нагла-жорсткай.

Розныя лібэральныя пасламбленьні для ўкраінцаў, беларусаў ды іншых народаў былі дадзены Масквою тады, калі фактычна „дыктатура пралетарыяту" вісела на валаску, калі транспарт быў канчальна разбураны, а хлебазагатоўкі выконваліся толькі пасьля фармальнага бою з удзелам пяхоты, кавалерыі і артылерыі, калі па ўсей Украіне і Беларусі пасеўная плошча выносіла ледзь 20% передваеннай, а калхозы і савхозы разбазарылі ўсю жывёлу па прыкладу індывідуальных гаспадароў, калі ўрэшце бязьлітасны голад пачынаў заглядаць у вочы на'т савецкіх ўсемагутных камісараў...

Вось у якіх абставінах паасобныя народы Савецкай Расеі атрымалі сякую-такую магчымасьць пачаць будову свайго культурна - нацыянальнага жыцьця. У гэтым часе ўдалося і беларусам пашырыць частковa граніцы БССР, адчыніць тысячы беларускіх пачаткавых школаў, сотні сярэдніх, дзесяткі розных спэцыяльных тэхнікумаў, Беларускі Сельска-Гаспадарчы Інстытут у Горы-Горках ды Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у Менску. Праз нейкі час удалося пераглядаць існаваўшы. так званы, „Інбелкульт" (Інстытут Беларускай Культуры) ў Беларускую Акадэмію Навук, ды пачаць сапраўдную беларусізацыю ўсіх дзяржаўных установаў, ня выключаючы самой **Компартыі**.

Аднак гэная ідылія цягнулася ня доўга, Узмацаваўшыся на ўнутраным фронце ды скарыстаўшы з выгаднага для сябе міжнароднага палажэньня, маскоўскі бальшавізм пачынае паступова закручваць і нацыянальную шрубу. Для апраўданьня зьмены свае нацыянальнае палітыкі,хітра прыдуманы розныя „нацдэмаўшчыны" ды пушчана ў ход аслаўленае ГПУ. Адначасна гэная тактыка праводзіцца на Украіне, Беларусі, Кубані, Азэйбэрджане ды ў іншых савецкіх рэспубліках. У выніку —тысячы сапраўдных барацьбітаў за культурна-нацыянальнае адраджэньне сваіх народаў гіне ў казематах ГПУ, на Салоўках, У Нарымскім і Туруханскім краёх ды ў іншых „не столь отдаленных местах", а на іх месца прысылаюцца адказныя работнікі з Тамбова, Тулы, Калугі ды іншых маскоўскіх цэнтраў. „Нацшруба" пачынае ўсё больш ды болей зацiскацца. На савецкай Украіне асядае вядомы маскоўскі сатрап Постышаў, які і праводзіць бязьлітасную чыстку сярод,так званага, украінскага „нацыялістычнага элемэнту". Насылаюцца тысячы розных сэкрэтароў і палітрукаў з чыста расейскіх абшараў, фабрыкуецца цэлы рад яўных — паказных, а яшчэ больш няяўных працэсаў. Тое самае наглядаем і на Савецкай Беларусі. Ігнатоўскага забіваюць, Лёсіка, Гарэцкага, Некрашэвіча высылаюць, менш ведамых напрост забіваюць, а выменяных з Польшчы паслоў Грамады — Рак-Міхалоўскага, Мятлу, Дварчаніна ды іншых заганяюць на Салоўкі.

Так „выпрастоўваецца" генэральная лінія ў нацыянальнай палітыцы Саветаў.

У сучасны мамэнт, у сувязі з перавагаю бальшавіцка-сацыялістычнага фронту падчас выбараў у Францыі ды шыбкім узростам камуністычных уплываў у Гішпаніі,—яшчэ больш завастрыліся праявы маскоўскага нацыяналізму ў бальшавікоў, каторыя прыступілі ўжо да канчальнай ліквідацыі паасобных нацыянальных рэспублікаў.

Што раз то часьцей спатыкаем у савецкай прэсе публічныя заявы адказных маскоўскіх партыйцаў, што Украіна і Беларусь **неразьдзельна** зьвязаны з СССР.

Адначасна вядзецца сыстэматычная і пляновая праца па ўніфікацыі гэтых краінаў, а найбольш жорсткім, ды амаль нідзе не практыкаваным, срэдствам канчальнага „возсоединенія" гэных краінаў зьяўляецца масавае **перасяленьне** народаў.

Так выглядае маскоўскі бальшавізм з сваёю нацыянальнаю палітыкаю. Аслаўлены бальшавіцкі інтэрнацыяналізм фактычна зьяўляецца самым істотным маскоўскім нацыяналізмам.

Мала чым розьняцца ад бальшавізму і заходня - эўрапэйскія нацыяналізмы, як італьянскі-фашызм, нямецкі-гітлерызм і польскі-энд. шовінізм.

Усе яны падобна да бальшавізму маюць захопніцкія імпэрыялістычныя імкненьні, каторыя прыкрываюць рознай туманна - аблудный фразэолёгіяй.

Маскоўскі нацыяналізм прыкрываецца даволі спрытна марксызмам, зразумела толькі тады і там, дзе яму гэта патрэбна для апраўданьня свае прапаганды за граніцамі СССР, або для свае асыміляцыйнае акцыі ў межах Расеі.

Італьянцы, пад лёзунгам барацьбы з афрыканскімі „дзікарамі", паняволькваюць зусім нявінную, але слабейшую ад іх Абісінію, а пад гукі італьянскіх гарматаў ды бомбардуючых самалётаў немцы займаюць сваім войскам Надрэнію.

Польская-ж эндэцыя, выконваючы, відаць, «сваю гістарычную місію», вядзе людаедскую прапаганду супроць усіх нацыянальных меншасьцяў, асабліва-ж супроць жыдоў, украінцаў ды беларусаў.

З гэтага бачым, што ўсякія бальшавізмы, камунізмы і ім падобныя нацыяналізмы ці фашызмы нічога добрага для слабейшых народаў не варожаць.

Кожны не-дзяржаўны народ павінен памятаць, што толькі вялікай дружнай Грамадою здолее абараніць сябе ад згубы. Беларусы павінны памятаць аб гэтым больш чымсь хто-небудзь іншы.

## Экспозэ прэм'ера Славой-Складкоўскага.

4 г. м. адбылося паседжаньне Сойму, на якім разглядалася справа прадаўжэньня надзвычайных паўнамоцтваў, каторыя ў свой час былі прызнаны папярэдняму ўраду і срок каторых скончыўся 1 чэрвеня г.г.

З вялікай прамовай, прысьвячанай гэтаму пытаньню, выступіў прэм'ер-міністар ген. Славой-Складкоўскі.

У пачатку сваёй прамовы прэм'ер-міністар заявіў, што задачай яго ўраду зьяўляецца палепшаньне гаспадарчага палажэньня краю, духовае ўзмацненьне яго і абясьпечаньне „заўтрашняга дня".

„Мой габінэт, — заявіў прэм'ер-міністар, — ня пойдзе далёка ні на лева з тымі, каторая маючы ў прошлым прыгожыя традыцыі барацьбы за незалежнасьць і вайны з бальшавікамі, сяньня дагаварываюцца з камуністамі і заключаюць з імі „дагавор аб ненападаньні", — ні на права, з тымі, каторыя некалі свае ідэалы перахоўвалі ў цені колёсу царскай Расеі, а пасьля яго развалу не знайшлі сымболю больш сучаснага, як меч Балеслава Хробрага і зьвялі яго да значка ў пятліцы, а рэалізацыю гэтага сымболю да антыжыдоўскіх выступленьняў.

„Мой урад у гэтым напрамку ня пойдзе. Ён уважае, што ў Польшчы нікогa нельга крыўдзіць. Эканамічная барацьба — так, але ніякай несправядлівасьці.

Палітычны твар майго габінэту будзе зьвернены заўсёды ў той бок, дзе будзе карысьць нашага краю.

Ген. Рыдз-Сьміглы сказаў нам, што ў сучасны мамэнте найвышэйшая карысьць краю—ў арганізацыі яе абароны. Мы разумеем гэтыя словы ў самым шырокім іх значэньні".

Далей прамоўца падчыркнуў, што галоўная сіла народу і самая багатая крыніца яго энэргіі знаходзіцца ў шырокіх працоўных масах, а для таго, каб чэрпаць гэтыя сілы, трэба ведаць, што масы думаюць.

„Дзеля гэтага я забараніў, — заявіў п. прэм'ер міністар — рабіць масавыя арышты і конфіскаты газэтаў. Пры масавых арыштах, арыштоўваюцца людзі бяднейшыя, а пры масавых конфіскатах урад ня ведае, што аб ім гаворaць. Сільны ўрад не баіцца таго, што аб ім пішуць. У працягу кароткага часу я пераканаўся, што там, дзе ёсьць хаця-б крыху працы і няма голаду, — няма і камунізму. Камуністы карыстаюцца тым, што ёсьць людзі галодныя. Але гэта дрэнная сыстэма кіраваньня, калі сапраўдныя камуністы карыстаюцца ў Польшчы свабодай, а галодныя трапляюць у турмы. Трэба рабіць інакш: галодным даць есьці, а камуністаў саджаць у турмы (гучныя аплёд.). Нашай галоўнай задачай зьяўляецца даць хлеб галодным, здабываючы ім працу. Калі я гэтага не патраплю зрабіць, то перадам сваё становішча таму, хто гэта зможа зьдзейсьніць.

Далей п. прэм'ер перайшоў да пытаньня аб надзвычайных паўнамоцтвах, матывуючы іх неабходнасьць.

Пасьля гэтага адбылося першае чытаньне законапроекту аб поўнамоцтвах, якія пасьля быў пераданы ў спэцыяльную камісію.

## Важная — але яшчэ нявырашаная справа.

Ад гаспадарчага крызысу, які ўжо некалькі гадоў трывае амаль ва ўсім сьвеце, найбольш пакуль што церпіць вёска наагул, у тым ліку і нашая беларуская вёска.

Жыхарства вёскі з кожным годам павялічваецца, дзеля чаго ня ўсім хапае працы на зямлі, выпраўляць-жа лішнія рабочыя рукі на фабрыкі і заводы ў гарады няма магчымасьці, бо-ж у гарадох таксама ня ўсе жадаючыя працаваць могуць знайсьці гэную працу.

Ізноў-жа даўнейшыя заработкі на вёсцы з паўстаньнем крызысу, калі гаспадарчае жыцьцё пачало заміраць, спыніліся, і такім чынам на вёсцы аказаліся лішнія рабочыя рукі.

Адначасна з гэтым, дзякуючы крызысу, цэны на земляробскія прадукты вельмі абнізіліся, а гэта выклікала вельмі нізкую аплату земляробскае працы наагул і паступовае спаданьне ўніз таго дабрабыту нашае вёскі, які пачаў разьвівацца на вёсцы, калі прынамся хоць пэўная частка нашых гаспадароў магла пакрысе прыкупляць зямлю, пашыраючы гэтым свае невялікія гаспадаркі.

Аб цяжкім палажэньні, ствараўшымся на вёсцы з прычыны крызысу, ужо даўно было вядома. Аб гэтым шмат гаварылася і пісалася, аднак рабілася вельмі мала дзеля паляпшэньня гэнага палажэньня. І толькі папярэдні і сучасны Урад Польшчы зьвярнуў належную ўвагу на гэнае пытаньне, добра разумеючы тое вялікае значэньне ў жыцьці дзяржавы, якое мае вёска, дзе жыве звыш трох чвертак усяго жыхарства дзяржавы. Як ведама, распараджэньнем папярэдняга Ураду былі абніжаны цэны на некаторыя прамысловыя тавары, як цукар, газа, соль, жалеза і іншыя, а таксама зроблены пэўныя палёгкі ў сплаце даўгоў у пазычковыя банкі. Сучасны Урад, як відаць, добра ацэнівае цяжкое палажэньне вёскі, аб чым найлепш сьведчыць скліканая ў Варшаве на 28 і 29 траўня канфэрэнцыя ў справе культуры вёскі. На канфэрэнцыю прыбыла каля 250 чалавек з усяе Польшчы. Тут былі прадстаўнікі Ураду, Сойму і Сэнату а таксама гаспадарчых арганізацыяў.

Адчыняючы канфэрэнцыю п. прэм'ер ген. Славой-Складкоўскі сказаў наступнае:

„Мы досыць маем у Польшчы і гэроізму і трываласьці ў бядзе. Пераканаліся, што гэта ўмеем. Але цяпер нам трэба не галодных сыноў вёскі, якія білі бальшавікоў, але пад'еўшых сялянскіх сыноў, якія будуць біць вясковую бяду, якія здолеюць стварыць такую Польшчу, каб ня была беднай маткай, якая толькі лашчыць свайго сына, але якая дасьць свайму сыну есьці. Дзеля таго Урад прыдае вялікае значэньне гэтай канфэрэнцыі. Гэная культура вёскі зьвязана перадусім з найменшым выжыўленьнем, з найменшым бытам. Дзеля таго бярэм учасьце ў нарадах і дзеля таго жадаем вам ад імя ўраду добрых і карысных рэзультатаў".

П. міністар Асьветы сьцьвердзіў, што яшчэ шмат чаго трэба зрабіць, каб падняць культуру на вёсцы, *перадусім-жа трэба стварыць адпаведныя ўмовы дзеля культурнага разьвіцьця вёскі.*

Зразумела, што ўсё сказанае аб польскай вёсцы датычыцца і нашай беларускай вёскі, хіба можа з той розьніцай, што дзеля падняцьця культурнага роўня працы ў нашай вёсцы трэба яшчэ больш высілку, чымся ў вёсцы польскай, бо-ж дасюлешнія ўмовы жыцьця нашай вёскі вельмі мала спрыялі культурнаму яе разьвіцьцю.

Калі ў польскай вёсцы існаваўшыя дасюль розныя культурна-асьветныя арганізацыі са школамі на чале, зрабілі, як відаць са слоў прадстаўнікоў Ураду, ня шмат дзеля падняцьця культуры, то што-ж казаць аб нашай вёсцы, для якой гэныя арганізацыі зьяўляюцца ў дататак чужымі, далёкімі, арганізацыі, у якіх вельмі часта працуюць людзі, ня ведаючыя ўмоваў жыцьця нашае вёскі.

Па розным прычынам, на жаль, да апошняга часу арганізацыяў, якія блізка стаяць да нашай вёскі, было вельмі мала, а існуючыя не маглі належна разьвіць сваю дзейнасьць.

Трэба верыць, што заявы прадстаўнікоў Ураду аб неабходнасьці падняцьця культурнага роўня вёскі зьяўляюцца шчырымі, а тады трэба спадзявацца, што і ўмовы дзеля культурнага разьвіцьця нашае вёскі будуць новыя, лепшыя.

Адным з такіх дзейнікаў для стварэньня гэткіх умоваў зьяўляецца абавязкавасьць вядзеньня культурна-асьветнае працы ў зразумелай для вёскі мове, г. з. для нашай вёскі ў мове беларускай і каб працу гэную вялі людзі, блізкія тэй самай вёсцы. Калі будзе інакш, то ў найлепшым выпадку наша вёска культурна будзе таптацца на месцы са школай і для сябе і для дзяржавы.

## ДАКАЦІЛІСЯ.

Канстытуцыя Польскае Дзяржавы дае пэўную рэлігійную свабоду. Пад гэтым трэба разумець ня толькі свабоду таго ці іншага культу, а і свабоду захаваньня традыцыяў гэтага культу. Праваслаўная Царква, аднэй з сваіх традыцыяў на нашых землях, захавала багаслужэбную царкоўна-славянскую мову. Нашая-ж духоўная ўлада бяз згоды вернікаў, самавольна зламала гэную традыцыю, ўводзячы ў багаслужэньне мову польскую.

Праваслаўная Царква, як Царква Саборная, можа карыстацца пры багаслужэньні моваю сваіх вернікаў, складаючых гэную Царкву. Калі духоўная ўлада шчыра-б хацела паказаць, што яна парвала з Царквою расейскаю і з яе традыцыямі, дык зусім натуральным і лёгічным доказам гэнага быў-бы пераход на мову вернікаў—мову беларускую. Пераход на мову польскую—гэта праява нізкае ўгодлівасьці, нічога супольнага ня маючае з лёйяльнасьцяй да Дзяржавы.

Трэцяга мая, ў дзень нацыянальнага сьвята Польскае Рэспублікі, ў Вільні, ў Прачысьценскім Саборы для салдатаў праваслаўнага веравызнаньня адбылося багаслужэньне ў польскай мове. Палякаў праваслаўных у нас амаль што няма. На гэнае багаслужэньне прывялі праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў. Багаслужэньне ў польскай мове, гэны зрыў векавых традыцыяў, быццам, з прымусу, не магло зрабіць дадатняга ўражаньня на тых, якія павінны быць абаронцамі сваей Дзяржавы і такія экспэрымэнты ня толькі не падымуць патрыятызму жаўнера, а якраз наадварот... Тыя, хто гэта робіць, робяць хіба сьвядома на шкоду Дзяржавы.

Ведаючы душу беларускага народу, яго кансэрватыўнасьць у захаваньні сваіх звычаяў і традыцыяў, мы лічым такое паступаньне праступленьнем як супроць Дзяржавы, так і супроць беларускага народу.

Каму гэта патрэбна? Патрэбна хіба толькі тым, хто хоча праступнаю вонкаваю ўгодлівасьцяй прыкрыць сваю чорнасоценную душу. Такія экспэрымэнты—гэта самая шкодная агітацыя супроць польскае Дзяржаўнасьці на нашых землях. Мы стоячы на грунце згоднага сужыцьця ўсіх насяляючых наш край народоў рашуча дамагаемся спыніць гэныя правакацыйныя экспэрымэнты „ўслужлівага" духавенства. Ня трэба кідаць лішняга зярняці нязгоды паміж народамі польскім і беларускім.

Адначасна гэтае-ж самае духавенства ў другім месцы ўжо ў старадаўнім беларускім Сьв. Духавым Манастыры, у часе ўрачыстага архіерэйскага багаслужэньня, ў прысутнасьці прадстаўнікоў дзяржаўнае ўлады, дадумалася яшчэ да большай недарэчнасьці. Есьць традыцыйны звычай — на ўрачыстасьцях нацыянальнага характару, калі прамаўляюць афіцыяльна ад імя якой-небудзь нацыянальна-грамадзкай групы, то заўсёды прамаўляюць ў мове народнай.

На ўрачыстым-жа багаслужэньні 3 мая архіпастыр беларускай Віленскай епархіі, прамовіў да верных якраз у мове *расейскай.*

Гаварыў вядомы ўжо прат. Дзічкоўскі, арганізатар польскіх багаслужэньняў у Прачысьценскім Саборы...

Расейская мова ў дзень польскага сьвята 3 мая?!!

Можа гэным нашая духоўная ўлада хацела падкрэсьліць, што цяперашні палітычны status quo яна лічыць дачасным? Можа гэным хацела прыпомніць польскаму і беларускаму народам, што часы Кацярыны Вялікай і Мураўёва могуць паўтарыцца? Ня ведаем...

Вядомы працiўнік аўтакэфаліі Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, заядлы вораг беларускага народу, адзін з самых ярых прадстаўнікоў расейскае рэакцыі, для якой найвысшым ідэалам ёсьць „единая и неделимая" расьпінаецца за Польскую Дзяржаву ў мове.. расейскай...—Ці-ж гэта ня зьдзек?!

Хоць Духоўная ўлада Віленскай епархіі і чужая сваёй пастве, аднак павінна была ў гэты ўрачысты дзень польскага нацыянальнага сьвята ўшанаваць гонар тых, хто калісь разам з беларусамі зносіў цяжкую чужацкую няволю ды не прыпамінаць аб крывавых часоў мураўёва-вешателя.

**Уступайце як сябры ў Т-ва Беларускае Асьветы.**

## 200 папулярных цягнікоў.

Як паведамляе ПІД, сёлета будзе зарганізавана 200 выездаў папулярнымі цягнікамі з розных мясцовасьцяў Польшчы, з чаго прыпадае: у Кракаў - 90, у Гдыню —59 і ў Вільню— 51.

## Памяць аб праф. Карскім.

*(Да 5-тых угодкаў яго сьмерці).*

Я прыпомніў прафэсару тую пашану, якую выказаў яму на Усебеларускім Зьезьдзе сам народ праз сваіх сярмяжных дэлегатаў, дадаючы што з гісторыі гэтага народу, як з песьні слова, ня выкінеш праф. Карскага, хутчэй з яе вылеціць той ці іншы сэзонны палітык. Зрабілася весялей і я дакляраваў прафэсару, што буду старацца, каб Вайсковая Камісія запрасіла яго, калі ён згодзіцца, прачытаць гэтулькі, сколькі знойдзе патрэбным, лекцыяў па беларускай этнографіі на курсах для беларускіх афіцэраў, кіраваць якімі і арганізаваць якія даручана мне. Тут-жа я дадаў, што буду дамагацца падвышэньня яму гадзіннай платы ўдвая ў параўнаньні з іншымі лектарамі, а таксама даб'юся, каб з Вайсковай Камісіі выдавалі яму і паёк натураю, як кожнаму штатнаму яе працаўніку...

— *Буду очень благодарен... не откажусь,* — пачуў я згоду прафэсара.

Перагаварыўшы з сябрамі Вайсковай Камісіі, я хутка пусьціў у рух курсы; усё, што дакляраваў Карскаму, мне ўдалося правясьці, але з адным варункам з боку Вайсковае Камісіі: *калі Карскі будзе чытаць свае лекцыі пабеларуску.* Сябром В. Камісіі Я-му і М-му я адказаў, што падобнага варунку я асабіста не пазволю сабе ставіць Карскаму ультыматыўна, бо ідзе тут аб веду, а не аб мову; нашыя афіцэры—гэта былыя афіцэры расейскія, як і я сам, і Карскага яны якнайлепш зразумеюць. Мне даручылі перагаварыць аб усім гэтым з Карскім у такім духу, як я знайду патрэбным.

Калі на другі-ж дзень мая гутарка з Карскім адбылася і я перадаў яму, што ў Вайсковай Камісіі яго выкладаньне на курсах пабеларуску лічаць *пажаданым,* хоць я асабіста ня лічу гэтага *абавязкавым,* дык прафэсар, весела сьмяючыся, сказаў:

— *Ничего, понатужимся . . . Скажите Вашему начальству, что я согласен.*

Разумеецца, што я ня ручаюся за абсолютную точнасьць усіх слоў прафэсара, хоць некаторыя з іх у маёй памяці заселі даволі глыбока, сэнс аднак-жа маіх гутарак з ім перадаваць стараюся з усёю магчымай праўдзівасьцю.

Думаю, што Карскаму вымаганьне Вайсковае Камісіі выкладаць на курсах пабеларуску не магло спадабацца і помню зусім ясна, што ён пра беларускіх афіцэраў сказаў: „важна ня тое, якою моваю яны гавораць, а важна, каб яны былі беларускімі патрыётамі"...

З першае-ж лекцыі Карскі павёў на курсах свой прадмет пабеларуску. Паважна, крыху марудна, спрытна папраўляючыся, калі з вуснаў сарвецца часамі які-небудзь русіцызм. Аднак у іншых месцах выкладаў ён гэтак чыста пабеларуску, што мы вучыліся ад яго ня толькі выкладанага прадмету, але і самае мовы беларускае, як такой.

Нават калі мы бывалі ўтомлены іншы раз лекцыямі іншых лектароў, дык усё роўна Карскага слухалі з поўнаю ўвагаю: вялікі талент меў наш вучоны вылажыць тое, што сам зусім апанаваў. Вялізарны запас веды, дар слова, чароўны аратарскі спрыт іграць на ўсіх струнах душы свае аўдыторыі меў акадэмік Карскі. Калі кіне бывала вокам на салю, завёўшы слухачоў у сухія дзебры свайго прадмету, ды раптам адвядзе напружанасьць нашае ўвагі якой-небудзь дробнай ілюстрацыяй, двузначнаю народнаю прыказкаю ці прыпеўкаю, — аўдыторыя сьвяжэе, увага напружваецца далей... З вялікім талентам умеў чытаць гісторыю Беларусі (на курсах настаўнікаў) і будучы савецкі праф. Ігнатоўскі, даволі сільны ў мове беларускай, аднак выкладаньне ў яго выглядала шмат монотоньней, як у Карскага. Праўда, Ігнатоўскі малодшы быў і больш схіляўся ў бок палітыкі, як у бок навукі.

Зайшлі мы неяк раз да Карскага з нашым афіцэрам Б., пагаварылі мінут 20 аб літэратуры. Карскі зазначыў, што нячувана шпаркім тэмпам расьце беларуская літэратурная мова; вартасьць ён прыдаваў тым аўторам, якія маглі быць ува ўсіх кутках Беларусі зразумелымі, а ня тым, якія застывалі на якім-небудзь провінцыяльным дыялекце. Мой калега Б., выйшаўшы на вуліцу, заўважыў аб Карскім:

— Пагаворыш з гэтым чалавекам і чуеш, што падрос. Розуму ў яго—палата!

Помніцца адно беларускае паседжаньне (тады іх шмат бывала). Старшыня да кожнага браўшага слова зьвяртаўся з запрашэньнем: „*проша*!"

Карскі зьвярнуў увагу, што гэта зусім не-пабеларуску, радзіў шукаць іншае формы, а не перакручваць чыста польскага *proszę.*

І ўсё гэта з мягкаю аўторытэтнаю ўсьмешкай на сваім здаровым твары.

Курсы для нашых афіцэраў абарваліся, як і лекцыі Карскага на іх, без пары, дзякуючы ваенным падзеям. Менск прышлося пакідаць.

Помніцца нязвычайна гарачы і душны дзень 8-га ліпня 1920 го-

тэлефонныя правады, якія злучаюць Ерусалім з паасобнымі палестынскімі гарадамі і з заграніцай. Генэральны ангельскі камісар ня мог паразумляцца, як заўсёды, з Лёнданам і Каірам.

Ангельскія ўлады засэквэстравалі концэсыйную радыёстанцыю ў Ерусаліме, каб мець лучнасьць прынамся з паасобнымі вайсковымі групіроўкамі ў Палестыне. З заграніцаю лучнасьць, дзеля слабога засягу ерусалімскай радыёстанцыі, адбываецца пры помачы ваенных параходаў.

У некаторых мясцох арабы ўзарвалі чыгункавую лінію. Калюмны арабскіх работнікаў, якія працавалі пры направе разбуранай чыгункі, апынуліся пад абстрэлам і змушаны былі ўцячы

У сувязі з гэтым, генэральны камісар выдаў нязвычайныя загады, на аснове якіх паліцыя атрымала шырокія паўнамоцтвы пры арыштах і вобысках.

## Канец вайны ў Афрыцы.

Увесь сьвет вельмі цікавіўся як хутка і чым кончыцца вайна, якую пачала ў кастрычніку леташняга году ўваружоная, як кажуць, з ног да галавы па апошняму слову ваеннай тэхнікі, Італія супроць амаль безаружнай Абісініі. На пачатку вайны шмат каму здавалася, што Італіі прыдзецца ваеваць у гарыстым, мала даступным краі, дзе няма адпаведных дарог, і таму на хуткую перамогу Італіі разьлічаць ня прыходзіцца, тым больш, што гаспадарчае палажэньне Італіі павінна было пагоршыцца з увядзеньнем, так званых, санкцыяў, якімі Ліга Нацыяў, пад уплывам Англіі, зьбіралася напалохаць Італію. У сапраўднасьці-ж вышла так, што Італія, ня гледзячы на санкцыі, атрымоўвала патрэбныя ёй матэр'ялы з другіх дзяржаваў і ў працягу сямёх месяцаў зусім разьбіла абісінскае войска і заняла сталіцу Абісініі. Абісінскі цар, нэгус, быў змушаны пакінуць свой край і выехаць сьпярша ў Палестыну, а потым у Лёндан. Праўда, нэгус яшчэ і цярер у сваіх гутарках з рознымі карэспандэнтамі газэт, якія да яго зварочваюцца, заяўляе, што верыць у справядлівасьць, ці ў тое, што яму памогуць урады іншых дзяржаў,аднак можна быць пэўным у тым, што калі нэгусу ніхто не памог раней, калі такая помач была магчыма, цяпер аб гэтым сур'ёзна думаць ня прыходзіцца.

Неўспадзеўкі хуткі канец вайны ў Афрыцы з поўнай перамогай Італіі унёс яшчэ большую путаніцу ў міжнароднае жыцьцё, падарваўшы канчальна аўтарытэт Лігі Народаў, галоўнай задачай якою было пільнаваньне супакою на сьвеце і недапушчаньне да вайны.

**Закладайце Гурткі Т-ва Беларускае Асьветы.**

## З усяго сьвету.

— *Нэгус*, які змушаны быў пакінуць Абісінію, прыбыў ужо ў Лёндан. Кажуць, што нэгус прывёз з сабою залатыя штабы на суму 22 тысячы ангельскіх фунтаў. Нэгус мае быць прыняты ангельскім каралём, якому жадае падзякаваць за сымпатыю Англіі, выказаную ў часе італьянска-абісінскай вайны.

— 3 чэрвеня г. г. прыбыў з Абісініі ў *Нэапаль маршалак Бадогліо*, якога віталі князь П'емонту, прадстаўнікі ўладаў і фашыстоўскай партыі. Сабраўшыяся натоўпы люднасьці зрабілі на чэсьць Бадогліо вялікую маніфэстацыю. Прывітаньне пераможцы Абісініі ў Рыме будзе мець характар трыумфальнага ўваходу паводле старарымскага звычаю. Адна з галоўных вуліцаў Рыму будзе названам імя Маршалка Бадогліо.

— „Трыбуна" публікуе *апошні сьпіс забітых і памёршых* салдатаў у абісінскай вайне. Паводле гэтых дадзеных, італьянцаў пала на фронце 1147 асоб, 125 асоб памёрла ад ранаў, 31 асоба загінула бяз весьці і 100 асоб забіта ў часе паўненьня службовых абавязкаў. Туземцаў пала ўсяго 1086 асоб, з чаго 507 асоб на фронце паўночным і 579 асоб на паўдзённым. Такім чынам у вайне пала ўсяго 2489 італьянскіх салдатаў.

— *Амэрыканская конфэрэнцыя працы* паведамляе, што пачынаючы з красавіка месяца лік безработных паменшыўся на 750.000 чалавек. Фабрыкі і заводы Злучаных Штатаў атрымалі вялікія заказы. Аднак у Амэрыцы ў сучасным мамэнце знаходзіцца каля 11 мільёнаў безработных.

Асаблівай сэнсацыяй на конфэрэнцыі было выступленьне Г. Форда, які заявіў, што крызыс мінае і то на ўсім сьвеце, і што хутка наступіць новае „prosperite" (гаспадарчы расьцьвет) яшчэ з большым размахам, як папярэдняе

## Гаспадарчы аддзел.

### Які вулей найлепшы?

Адказаць на гэтае пытаньне вельмі цяжка, бо-ж кожны бортнік хваліць той вулей, да каторага прывык, або на'т „сам зрабіў", модыфікуючы, зразумела, той ці іншы з распаўсюджаных у яго ваколіцы.

У нашым краі, як ведама, найбольш распаўсюджаны, побач з прастарою „калодаю", наступныя рамовыя вульлі: Лявіцкага, Варшаўскі, Дадана, Славянскі ды дзе-ні-дзе, так званыя, ўкраінскі і пазнанскі.

На розных пчалярскіх курсах ды ў адпаведнай прэсе апошнімі часамі найбольш пашыраецца чамусьці вулей *Дадана*.

Маладыя бортнікі, прыступаючы да закладаньня пасекі, пад уплывам гэтае прапаганды і пачынаюць сваю пасечную гаспадарку з гэтым аслаўленым вульлем, аднак як ні стараюцца вясьці дзела па кніжнаму — нічога ня выходзіць і пасека іх не пашыраецца і мёду ня маюць. Зразумела, што часта ў гэтым вінаваты сам бортнік, а лепш кажучы ягоная непрактычнасьць, аднак вельмі магчыма, што і вулей тут адыгрывае не малую ролю.

Наагул што раз то больш чуюцца галасы незадаваленьня з рамовых вульляў, а на'т заклік да павароту да старое „*калоды*". „У калодах,--кажуць старыя бортнікі,--і мёд быў і раі былі, а цяпер і пасека паменшаецца і мёду няма".

Некаторыя, зразумела, і слухаць аб калодах ня хочуць, аднак вытлумачыць пагаршэньня пасечнае гаспадаркі ня могуць. Трэба памятаць, што *калоду абралі сабе за хату самі пчолы* і, відаць, яна ім чамусьці падабалася, а ўсе палацы пабудаваў для іх чалавек, ня пытаючыся пчолаў, ці ім такі палац падабаецца ці не. Калода— гэта значыць натуральнае жыльлё, а рамовы вулей—штучнае.

І вось каб адказаць на пытаньне, каторы з прыдуманых чалавекам „пчаліных палацаў" найбольш падабаецца пчолам, трэба было-б запытацца іх саміх, або доўга дасьледаваць, у якім яны найахватней і найспраўней працуюць.

І такія досьледы бязумоўна робяцца, толькі нажаль ня ўсюды. А трэба памятаць, што тое, што будзе добрае ў адным клімаце і ў адных варунках, можа быць зусім неадпаведным для другога клімату і іншых варункаў.

Нічога дзіўнага дзеля гэтага, што вулей Дадана, напр.,можа быць вельмі добрым для нейкай Італіі ці Амэрыкі, і зусім неадпаведным для Польшчы ці Расеі. Больш таго, ён можа быць зусім добры недзе ў Люблінскім ваяводзтве ці каля Кракава, і зусім неадпаведны дзе ў Наваградчыне ці Віленшчыне.

І гэта зусім магчыма, што вулей Дадана і ўсе яго комбінацыі не адпавядаюць для нашага даволі халоднага клімату з кароткім мёдабраньнем. Не адпавядае перш наперш таму, што дзякуючы вельмі нізкай абсадзе рамкі (2-3 ст. ад дна) пчолам можа быць ня зусім цёпла. Трэба памятаць, што ў калодзе „галава" значна вышэй паложана ад лятка і пчолам дзеля гэтага шмат цяплей. Па другое, практыкаваньні надстаўкі — хіба так сама пчолам вялікай карысьці ня прыносяць, бо-ж як ведама пчолы складаюць мёд пераважна і перадусім над гняздом. У калодзе мёду над гняздом—у „галаве"—пчаляр не забірае, ён застаецца для пчолаў, а ў Дадана над гняздом фактычна стаіць надстаўка, якую пчаляр якраз заўсёды забірае сабе. Гэную прывычку пчолаў складаць мёд над гняздом чалавек прыкмеціў і дзеля гэтага прыдумаў спосаб ашукаць іх даючы надстаўкі, але ці падабаецца пчолам тое, што ён забірае якраз іх зімовую клець — гэта вялікае пытаньне.

Ясна, што практычны бортнік гэную справу рэгулюе да пэўнай меры,—гэта праўда, аднак ці гэная яго рэгуляцыя на здароўе служыць пчолам—няведама.

Гэта, як бачым, толькі адзін з шматлікіх дзейнікаў, які можа часта заважыць у нашых неадпаведных ды бедных у мёданосныя расьліны варунках на сіле ды здароўі пчалінае сям'і.

А так частае трывожаньне пчолаў у рамовых вульлях наагул ды вечнае разбурваньне іх гнязда, рэгулюючы так званую „ройку" пчолаў?

Ці-ж гэнае зьявішча ня можа заважыць і на „ройцы" і на мёдзе? Хіба што хутчэй: „так" чымсь: „не".

Як бачым, ужо маем два важныя фактары, якія ня дзеюць у „калодах"—бо там і хату яны самі сабе выбіраюць, і гнязда іх ніхто праз цэлае лета не разбурвае ды іх курацымам ня трывожыць.

Гаворачы аб гэтым, я зусім ня зьбіраюся бараніць калодаў ды заахвочваць бортнікаў вярнуцца да „калодных" пасекаў, аднак хачу толькі перасьцярагчы ад бязкрытычнага захопленьня тою ці іншаю сыстэмаю рамовых вульляў.

Трэба перш вельмі добра пазнаць жыцьцё пчолаў, іх так сказаць псыхолёгію, прывычкі і ўпадабаньні, ведаць добра свае варункі мёдабраньня ды лічыцца з кліматычнымі ўмовамі, каб мець магчымасьць без памылкі выбраць тую ці іншую сыстэму рамовага вульля.

Ведаю, што ў нас шмат дзе вядуцца ўжо адпаведныя досьледы, але справа канчальна яшчэ ня вырашана. Адно здаецца ўжо сьцьверджана, што ніводзін з дасюлешніх сыстэмаў рамовых вульляў да нашых кліматычных і флёрыстычных варункаў не падходзіць.

Ці новасконструаваныя вульлі будуць адпавядаць усім нашым варункам, пакажа недалёкая будучыня на падставе робленых ужо ад пару гадоў досьледаў.

*Раман Паўстынскі.*

Бортнік з пад Вільні.

**Дамагайцеся бел. школы —зьвяртайцеся ў Т. Б. А.**

# Таварыства Беларускай Асьветы

гэтым абвяшчае, што

**24 чэрвеня 1936 году**

**адбудуцца ўступныя экзамены**

## у Віленскую Беларускую Дзяржаўную Гімназію

### ВАРУНКІ ПРЫЙМА:

**У I клясу** прыймаюцца дзеці (хлапцы і дзяўчаты), якія: 1) будуць мець на 1-га верасьня 1936 г. ня менш 12 і ня больш 16 гадоў і 2) скончылі 6 (шэсьць) ці 7 (сем) аддзелаў пачаткавай школы.
Тыя, хто прадставяць пасьведчаньні аб сканчэньні 6 ці 7 аддзелаў пачаткавае школы, здаюць пры паступленьні ў I-ю (былую III) клясу толькі паверачны экзамен з польскае мовы, арытмэтыкі і географіі. Кандыдаты, якія ня маюць успомненых пасьведчаньняў пачаткавае школы здаюць поўны экзамен у абыйме 6-ці аддзелаў пачаткавае школы.

**У II клясу** прыймаюцца дзеці па экзамену з усіх прадметаў у абыйме праграмы I кл. гімназіі, калі на 1-га верасьня 1936 г. будуць мець ня менш 13 і ня больш 16 гадоў,

УВАГА I. Кандыдаты, якія скончылі 7 аддзелаў пачат. школы ў бягучым шк. годзе могуць здаваць экзамен у II клясу толькі з дазволу Кураторыі Віл. Шк. Вокругу.
УВАГА 2. Кіраўнікі пачаткавых школаў атрымалі загад ад п. Куратара Віл. Шк. Вокругу выдаць тым вучням, каторыя хочуць паступаць у гімназіі, дачасныя пасьведчаньні не пазьней 10-га чэрвеня.

### Заявы прыймаюцца да 15-га чэрвеня 1936 г.

Да заявы трэба далучыць: 1) мэтрыку, 2) школьнае пасьведчаньне, 3) пасьведчаньне аб прышчэпе воспы, 4) дэклярацыю аб тым, што кандыдат па нацыянальнасьці — беларус ды пераслаць на Р. К. О. (блянкет можна купіць на кожнай пошце) 10 зл. за экзамен па наступнаму адрасу: „Filija białoruska Państw. Gimn. im. J Słowaskiego w Wilnie P. K. O. № 33.219.

Пры гімназіі ёсьць

### хлапцоўскі і дзявочы інтэрнаты.

Утрыманьне ў інтэрнатах (кватэра, апал, сьвятло, абед і дагляд — бяз сьнеданьняў і вячэраў—) каштуе 15 злот. у месяц. На сьнеданьне і вячэру даецца толькі кава, а хлеб, сала, ці масла і цукар трэба мець сваё.

Плата за навуку ў паўгодзьдзе — 110 зл. Бедныя вучні(цы), калі будуць мець за I паўгодзьзе добрыя пасьпехі могуць на 2-ія паўгодкі атрымаць зьніжку платы. Для вельмі бедных, а здольных вучняў і вучаніцаў, Беларускае Дабрадзейнае Т-ва і Аб'еднаньне Беларускіх Жанчын з II паўгодкаў вызначаюць стыпэндыі.

На экзамен дзяцей трэба прысылаць у Вільню ўжо **ў нядзелю 21 чэрвеня.**

Беларускае Дабрадзейнае Т-ва заапякуецца прысланымі кандыдатамі і прыгатуе для іх на час экзаменаў кватэру і утрыманьне.

**Т. Б. А.**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: М. ШЧАСТНЫ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14